Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ.
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ.
ГОД ВЫДАННЯ 5. ЛІСТАПАД 1933 № 15.



# Ці сапраўдныя яны ўдарнікі?

Былі тры таварышы — Віця, Валік і Міця. Разам гулялі, разам і ў дзіцячы сад хадзілі. А як былі яны аднагодкі, дык разам і вучыцца сталі.

Але вышла так, што Віця і Міця вучыліся добра, а Валік — не. Дурэў ён многа, часта заняткі прапускаў. У насценнай газеце пра яго і вершык напісалі.

## ЗДАРЭННЕ З ВАЛІКАМ

*Цэлы дзень мы прачакалі,*
*Цэлы дзень мы бедавалі,*
*— Дзе-ж падзеўся,—ўсе*
*пыталі,—*



*Дзе-ж падзеўся сёння Валік?*
*А як скончылі заняткі,*
*Мы шукаць тады пачалі.*
*Сустракаем яго матку*
*І пытаем: „Дзе ваш Валік?"*
*— Моцным сном ён спіць,*
*рабяткі,*
*Цэлы дзень храпе заўзята,—*
*Адказала яго матка.*
*— Разбудзіць не дам я рады...*

І вось аднаго разу згаварыліся Віця і Міця: не будзем гуляць болей з Валікам. Які-ж ён таварыш: гультай, прагульшчык. А мы — лепшыя ў групе ўдарнікі.

Назаўтра прышоў да іх Валік, а яны і прагналі яго ад сябе. Удваіх чыталі, а потым удваіх і гуляць пайшлі. І гэтак кожны дзень.

Крыўдна стала Валіку на сваіх таварышаў, і яшчэ горш закінуў ён вучобу.

**Ці добра зрабілі Віця і Міця? Ці сапраўдныя яны ўдарнікі вучобы? Каго мы лічым лепшым ударнікам вучобы?**

# ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ

**ШТО БУДЗЕ ДРУКАВАЦЦА У 1934 ГОДЗЕ У ЧАСОПІСІ**

## „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“?

УСЁ ТОЕ, ШТО ЦІКАВІЦЬ ЦЯБЕ, АБ ЧЫМ ТАБЕ ТРЭБА ВЕДАЦЬ, КАБ СТАЦЬ ЛЕПШЫМ АКЦЯБРОНКАМ У СВАЁЙ ГРУПЕ, ЛЕПШЫМ ВУЧНЕМ У ШКОЛЕ.

**Выдатныя нашы пісьменнікі: Колас, Купала, Чарот, Бядуля, Александровіч Маўр і др. будуць друкаваць свае новыя творы для дзяцей у часопісі**

## „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“

**Цана на часопісь зніжана**

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц—30 кап. | На 6 месяцаў—1 р. 80 к. |
| На 3 „ 90 кап. | На год 3 р. 60 к. |

***Не пазней 25-га снежня здай грошы на падпіску сваіму настаўніку, або на пошту ці лістаносцу***

Менск, друкарня «Звязды».

Галліт 2413



# МЫ ПАВІННЫ ДОБРА ВУЧЫЦЦА

Электрычны званок адразу супакойвае гаманлівую, вясёлую дзятву. Перапынак скончаны. З радасцю, са смехам бягуць вучні І—А групы на свае месцы. Іх трыццаць пяць, і ўсе акцябраты.

Праходзіць хвіліны дзве, і ў класе становіцца ціха. Настаўніца Вольга Аляксандраўна Сакольская гаворыць:

— Цяпер у нас чытанне. Дастаньце свае кніжкі.

І зараз-жа на скамейках перад кожным з'яўляецца чытанка.

— Сягоння будзем чытаць пра Владзіміра Ільіча Леніна. Адгарніце 21-ю старонку. Як будзе напісана 21?

— 2 і 1,—чуюцца дружныя галасы.

— Правільна. Чытай, Таня, спачатку,— кажа настаўніца.

Урок пачаўся.

## З каго браць прыклад

Праз некаторы час даходзіць чарга да **Сяргейкі Карсекі**. Чытае ён не спяшаючыся, з пэўнымі астаноўкамі, добра выгаварвае кожнае слова.

**„Ленін быў другам, таварышам рабочых. Ён хацеў усе парадкі змяніць. Хацеў, каб усім, хто працуе, стала жыць добра“.**

Сяргейка Карсека, сын чыгуначніка, лічыцца адным з лепшых, старанных вучняў у групе. Ён сам добра чытае і памагае **Цынглеру Івану.** Цынглер Іван — немец. Ён толькі другі год у Менску і дрэнна ведае беларускую мову. І Сяргейка дапамагае яму ў вучобе. А **Ходаш Бора,** сын друкара, дапамагае **Ніне Баранавай.**

## Лічыльнікі, якія ў школе непатрэбны

Ёсць у групе і недысцыплінаваныя вучні. Вось, напрыклад, **Саша Міленькі**. Ён кожны дзень што-небудзь прынясе з сабой акрамя кніг. На гэты раз ён прынёс маленькія лічыльнікі. І толькі адвернецца настаўніца ў другі бок, як Саша пачынае бразгаць лічыльнікамі.

Праз гэта ён і сам не слухае і другім перашкаджае вучыцца.

## Бруд—хвароба, чыстата—здароўе

У класе чыста скрозь, усё ў парадку. Ніхто не сядзіць апранутым. Вучні самі наглядаюць за чыстатою, сочаць адзін за другім.

Найбольш стараецца, каб усе прыходзілі чыстымі **Лейвікава Беба**. Яна лепшая вучаніца, працуе ў санітарнай камісіі. Калі хто прыдзе з бруднымі рукамі, дык яна адразу-ж адправіць да рукамыйніка памыць рукі.

Усе вучні ведаюць, што чыстата—першае правіла захавання здароўя. А здароўе кожнаму чалавеку патрэбна. Ды і ў спаборніцтве яны тады прайграюць, калі чыстаты ў іх не будзе. А яны спаборнічаюць з 27-й яўрэйскай школай. Адтуль прыходзяць да іх на вечары, а яны ідуць туды. Разам у цырк хадзілі, на экскурсію. Абавязаліся як адны, так і другія добра вучыцца.

## Вясёлы адпачынак

Трэці ўрок скончыўся. Цяпер—вялікі перапынак. На гэтым перапынку вучні не бегаюць па калідоры, па двары, як на малых перапынках. Яны ідуць усе ў вялікі зал, а там чакае іх музыкант.

Збяруцца вучні ў зал, — раяль іграе „яблычка“. А яны, пабраўшыся за рукі, танцуюць разам з настаўніцай, разам з важатым. Пасля танцаў пастрояцца ў рад па адным і маршыруюць пад песню.

Скончыцца перапынак,—здаволеныя, адпачыўшыя, ідуць рабята на чарговую лекцыю.

**А. ПАЛЬЧЭЎСКІ.**

**Менск, 25 ФЗС імя Чэрвякова.**



Сяргейка Карсека сам добра чытае і памагае вучыцца Цынглеру Івану.

# ФІЗКУЛЬТУРНІКІ

Верш М. Калачынскага.

*Як прыдзём мы ў школу рана,*
*Станем строем папарадку,*
*І пачнем рабіць старанна*
*Фізкультурную зарадку.*

*Левай, правай, левай, правай,*
*Ніцма, проста, дагары...*
*Бойка, спрытна і рухава*
*Ў нас выходзяць нумары.*



*Мігам-мігам, жыва-жыва,*
*Па камандзе, гэй, дружней!*
*Праз хвіліну-дзве у жылах*
*Кроў-пульсуе весялей.*

# ЦЯГНІК

З шумам зычным і вясёлым
Стукацяць-імчацца колы,
Стройна рэйкамі бягуць,
Паравоз крычыць „угу".

Мы дагонім вецер быстры,
Нібы мошкі, сыплюць іскры.
Белым воблакам густым
Засцілае вокны дым.

Дачы, хаты і гароды,
Трубы фабрык і заводаў,
Школа, клуб, калгасны сад—
Ўсё ляціць-бяжыць назад.

У рабочых працы многа:
Трэба новую дарогу
Пракладаць нам па лясох,
Па балотах і палёх.

Хай ад мора і да мора
Па шырокіх тых пасторах
Мчацца сотні цягнікоў
Да калгасаў, гарадоў.

ВЫСОЦКАЯ.

# Акурак

Апавяданне Т. Пяшчынскай
Малюнкі Н. Малевіча

Міхалку ўжо сем год. Ён ходзіць у школу, у нулявую групу. Кожную раніцу ён спяшаецца, каб не спазніцца.

— Хутчэй, хутчэй, мама, давай снедаць,—падганяе матку.

А паснедаўшы, бяжыць у школу. Са школы-ж Міхалка заўсёды ідзе не спяшаючыся. „Дадому ніколі не спознішся“, разважае ён.

Аднойчы ішоў ён дахаты і разглядаў, што траплялася на вочы. Спераду ішоў нейкі чалавек. Ён курыў папяросу. Потым кінуў акурак на тратуар і пайшоў далей. Міхалка паглядзеў на акурак і падняў яго. Ён не раз бачыў, як на іхняй вуліцы старэйшыя за яго хлопцы курылі. „Занясу хлопцам“, падумаў ён і хацеў палажыць у кішэню. Але папяроса была яшчэ з агнём, дымок ішоў з яе.

„А што, калі паспрабаваць— можа і сапраўды смачна?“

Некалькі хвілін Міхалка пазіраў на папяросу. Потым узяў у рот і пацягнуў. Дым зайшоў у горла і моцна запёк. Міхалку здавалася, што ў яго нешта гарыць у грудзёх і горле. Ён кашляў і не мог спыніцца. Дым душыў яго. З вачэй беглі слёзы. У роце было горка. Міхалка высалапіў язык і паскроб кіпцямі. Але нічога не памагала. Тады Міхалка хутчэй пабег дадому. Курыць болей не хацелася.



Праз некалькі дзён у Міхалкі на губе ўскочыў нейкі прышчык. Але адразу Міхалка да яго не прыглядаўся. Толькі, калі стала балець, паскардзіўся матцы. Маці павяла Міхалку да доктара.

Доктар, такі сярдзіты, з вялікімі акулярамі на носе, паглядзеў на больку і сказаў да маткі:

— У вас дома ўсе здаровыя?

— Усе,—адказала маці.

Доктар зірнуў праз свае акуляры на Міхалку і запытаў:

— Як цябе завуць, хлопчык?

— Міхалка.

— Ну, вось, Міхалка, ці не курыў ты чужой папяросы? Можа знайшоў дзе?

Міхалка зусім спалохаўся. Ну адкуль яму вядома, што курыў? Ды і што з таго, што паспрабаваў?

— Не, не курыў...

— А вось ты добра прыпомні.

— Я толькі паспрабаваў,—адказаў Міхалка, а потым расказаў, як ён знайшоў акурак, пацягнуў разоў са два, але яму не спадабалася.

Доктар паківаў галавой:

— Гэтага даволі,—кажа ён,— каб захварэць. Той чалавек, відаць, хворы на гэтую хваробу, а праз папяросу заразіўся і ты.



Потым доктар сказаў матцы, каб яна не палохалася: „Міхалку, кажа, будуць лячыць і вылечаць. Толькі есці трэба яму з асобнай пасудзіны, каб не заразіць другіх. У школу таксама хадзіць нельга. Як вылечышся, тады і пойдзеш. А цяпер,—кажа доктар да Міхалкі,—ідзі ды, глядзі, болей не бяры нічога бруднага ў рот.

Лячыўся Міхалка доўга. А як вылечыўся, ніколі болей нічога не падымаў на вуліцы і быў вельмі асцярожны. Ён сачыў і за сваёй маленькай сястрычкай, якая яшчэ не разумела нічога і часта збірала брудныя яблыкі альбо яшчэ што.

Настаўніца расказала дзецям у школе, як захварэў Міхалка і як павінны асцерагацца дзеці, нічога не браць у рот пасля другога.




Верш С. Грахоўскага
Малюнкі М. Беляніцкага

## Чым заняты Паўлік

Прышла зіма.
На вуліцы
У каўняры ўсе туляцца,
Спяшаюцца, спяшаюцца,
Бягуць і размінаюцца.
Па рэйках стройных мчыцца,
Пазвоньвае трамвай.
Сняжынкамі іскрыцца
На ўсіх садох зіма.
А Паўліка не цягне
Ні вуліца, ні сквер:
Чытаць, вучыцца прагне ён,
Як кожны піанер.

* * *

Пасцелі маці выслала,
Паўлюк даеў пірог
І з радаснымі мыслямі
Заснуць да рання лёг.

## Што сніцца Паўліку

Усе хлапцы вясёлыя,
А Янка і Пятрусь
Зляпілі ўжо за школаю
Высокую гару.
І Паўлік з імі бегае,
Хоць ён тут—
Толькі госць.
— Скажу перад калегамі*)
Адкуль
і хто я ёсць.
Пасля ён выхваляецца:
— Пятрусь, Янук, павер:
Я з цацкамі не знаюся,
На санках не катаюся,
Бо я ужо цяпер
Сапраўдны інжынер!
І фабрыкі, заводы
Цяпер будую я,
А лагеры, паходы
Ужо у гэтым годзе—
То справа не мая.

*) Калега—таварыш па рабоце.

Сягоння Паўлік рады,
Што стаў ён інжынер,
А ўчора у атрадзе
Быў толькі піанер.

І хлопцы паглядаюць:
Няўжо Паўлюк?
Ці ён?..
Падходзяць і пытаюць:
„Адкуль бярэцца тлён?
Усё, усё ён знае,
На ўсё дае адказ,
І нават сівізна ёсць,
Як у старых якраз.
— Ну, а каб болей ведаць,
Дык я вам раскажу,
Што пэўна сёння еду
Уночы за мяжу.

А за мяжой, рабята,
У нас ёсць друг Густаў.

Я быў-бы дужа рады,
Каб там яго спаткаў.

Ён шчыры комуністы,
Ён гэткі, як і мы,
Але яго фашысты
Не выпусцяць з турмы.

Хіба чырвоны гальштук
І ліст яму аддам,
Скажу, што ён найлепшы,
Найдаражэйшы нам.
І Паўлік заграніцу
Ужо нібы ляціць,
Але адразу Віця
Пачаў яго будзіць.

## Будзе так

За акном кружыўся,
Слаўся мяккі снег.
Паўлючок памыўся
І у школу бег,

Гэтак ён праходзіць
У школу да вясны,
А усе прыгоды—
Паўлюковы сны.

Толькі-ж гэтак будзе,
Хоць і не цяпер:
Паўлік, пэўна, стане
Лепшы інжынер,
Калі будзе ў школе
І ў атрадзе ён
Прыкладным і першым
Да апошніх дзён.

Адзінаццаць сёння
Паўліку гадоў...

Да ударнай працы,
Паўлік,
БУДЗЬ ГАТОЎ!



# СЛАЎНАЯ ГАДАВІНА

**Сёлета Ленінскі комсамол Совецкага Саюза адсвяткаваў сваю пятнаццатую гадавіну. У снежні месяцы споўніцца 15 год комсамолу Беларусі.**

**Багатая і слаўная гісторыя Ленінскага чырвонасцяжнага комсамола!**

**На ўсіх франтох, ва ўсякай рабоце комсамол выявіў сябе, як верны і адданы памочнік партыі.**

**За свае вялікія выдатныя заслугі комсамол атрымаў вышэйшую ўзнагароду ад партыі і совецкай улады—ордэны Чырвонага і Працоўнага сцягу. У адзнаку 15-й гадавіны лепшыя кіраўнікі і перадавыя работнікі комсамола ўзнагароджаны ордэнам Леніна.**

**Комсамольцы старэйшыя таварышы і важакі піянераў і акцябрат. Будзем вывучаць слаўную гісторыю комсамола. Будзем вучыцца ў лепшых комсамольцаў—герояў, як трэба працаваць і змагацца за справу рэволюцыі, за справу ЛЕНІНА І СТАЛІНА.**




*Гэта апавяданне пра комсамольцаў-герояў, што змагаліся супроць бандытаў— „зялёнаўцаў“ у 1920 г. на Украіне. Комсамольцы паказалі сябе, як самыя смелыя і адважныя чырвонаармейцы. Але „зялёнаўцам“ дапамаглі мясцовыя кулакі. Частка комсамольцаў была захоплена ў палон і замучана бандытамі. Жывым застаўся толькі адзін—таварыш ФАСТОЎСКІ.*

## 1. БАНДЫТЫ.

Пачынаўся вечар. Моўчкі вылезлі мы з акопаў і з вінтоўкамі напагатове пайшлі да ракі Дняпра. Кругом свісталі кулі, успыхвалі аганькі ад стрэлаў, падалі параненыя і забітыя.

Мы спусціліся з крутога берага да затокі Дняпра пад вёскай Трыпольем. Там ужо было многа нашых. Яны стаялі па калені ў вадзе. Мы ніяк не маглі зразумець, што здарылася. Адзін за другім чырвонаармейцы кідаліся ў ваду, пераплывалі на другі бераг.

Ужо было цёмна, як на нашым беразе паказаліся нейкія людзі. Яны крыкнулі: „свае“. Мы падышлі бліжэй. Бачым—бандыты, кругом кулямёты. Кідаем дакуманты ў ваду. Бандыты акружылі нас і, б'ючы прыкладамі, павялі ў вёску Трыполье.

## 2. РАСПРАВА.

Ноч. Выплыў месяц і асвяціў трупы закатаваных бандытамі людзей. Кругом стогны параненых, лаянка бандытаў, страляніна. Было жудасна.

Мы ішлі. Пасярод вёскі на плацы стаялі каменныя крамы і склады. Нас загналі ў крывы маленькі хляўчук.

Назаўтра раніцай нас вывелі на плац. Паставілі ў шарэнгу і раздалася каманда: „Комуністы—пяць шагоў наперад“.

Мы вышлі. Усіх нас завялі ў асобнае месца. Мы ведалі, што нас чакае, але трымалі сябе як комсамольцы. Сярод нас не было ніводнага здрадніка, ніводнага труслівца. Частка нашых комсамольцаў адважна загінула ў бойцы з „зялёнымі“. А тыя, якіх бандыты захапілі жывымі, парашылі не здавацца.

Як прайшла другая ноч у палоне, я не ведаю. Я быў вельмі змораны, некалькі начэй не спаў, таму заснуў моцным сном. Раніцай я даведаўся, што трыццаць чалавек забралі ад нас. Куды? Ніхто не ведаў.

Удзень закрычалі: „Выходзь!..“ Выцягнулі на двор чалавек восем комсамольцаў.

Праз нейкі час яшчэ ўзялі некалькі чалавек. Мы зразумелі, што яны болей ужо не вернуцца: іх павялі на расстрэл.

Я стаяў ля самых дзвярэй. І калі з грозным крыкам адчынілі дзверы, я першы вышаў. За мною—пяць таварышаў.

Нас паставілі каля сцяны, звязалі дротам падваіх рука да рукі. Поплеч са мной стаяў Валодзя Дымерэц.

Я ведаў—нас павядуць к Дняпру. Вада—гэта мне не страшна: я вельмі добра ўмеў плаваць і спадзяваўся, што выратуюся.

## 3. „ФАСТОЎСКІ, Я РАНЕНЫ“

Мы ішлі моўчкі. За кожнай нашай парай ішоў бандыт-зялёнавец.

Цямнела. Падышлі да Дняпра. Бандыты загадалі нам раздзецца і кідацца ў воду. Раздзяючыся, я ўбачыў, як два бандыты прыкладамі спіхнулі ў ваду маіх таварышаў. Тыя плёхаліся ў вадзе, а зялёнаўцы па іх стралялі.

Мы з Валодзем раздзеліся і кінуліся ў ваду. Па дарозе мігам развязалі дрот, якім былі звязаны нашы рукі. Мы абодва добра плавалі і ў ваду папалі незвязанымі. Бандыт не спяшаючыся падышоў да берага, прыладзіў да пляча вінтоўку і стрэліў.

Я плыў з усяе сілы, і больш нырaў у ваду, чым плыў.

— Фастоўскі, я ранены!—крыкнуў мне Валодзя. У яго з вуха цякла кроў.

Не паспеў ён падняць руку, як другая куля прабіла яму патыліцу. Валодзя пайшоў на дно.

## „Я ЎБАЧЫЎ ЧЫРВОНЫ СЦЯГ“

Змучаны, дабраўся я да берага. Была страшная ноч: дождж, хмары, навальніца. Я бег размахваючы рукамі, каб крыху сагрэцца.

Часта ўзлазіў на дрэвы, каб убачыць святло з якой-небудзь вёскі. Але ўсюды было цёмна.



Бандыты акружылі нас і павялі ў вёску.

З усіх шасці астаўся адзін я.

Зялёнаўцы стралялі ўжо толькі па мне, але было цёмна. Кулі свісталі над галавою. Адна з іх ударыла ў спіну...

Я доўга плыў... І ўжо не спадзяваўся даплысці. Але, нарэшце, нагамі стукнуўся аб дно.

Гэтак бадзяўся я два дні. Нарэшце, убачыў вёску.

Але туды не пайшоў: баяўся.

Здалёк відаць быў Днепр. Па ім плыў параход. Я пабег. На параходзе я ўбачыў Чырвоны сцяг. Гэта быў наш параход. Так я выратаваўся.

УЛ. ФАСТОЎСКІ.



# НА глыбіні 50 сажняў



Апавяданне комсамольца-вадалаза Гутта
Малюнкі Басава

*Комсамолец Гутт—былы піанер, актывіст. Вадалазам працуе пяць гадоў. Зараз—вадалаз-інструктар, сакратар партыйнай ячэйкі вадалазнага судна.*

У Фінскай затоцы затанула вучэбная падводная лодка. Урад загадаў нам, вадалазам, падняць лодку. Але дзе лодка затанула—невядома. Яна пайшла на дно і нават сігнала не паспела даць.

Доўга шукалі мы лодку. Два караблі цягнулі сетку. Сетка падобная на рыбацкую. Толькі сталёвая і вялікая. Нарэшце знайшлі. Выявілася, што лодка ляжыць на глыбіні 50 сажняў. А вядома, што ніхто ў свеце не быў нават на глыбіні 40 сажняў. У Амерыцы быў такі выпадак. Лодка затанула на глыбіні 32 сажняў. Як не стараліся амерыканцы—не паднялі.

А мы парашылі падняць сваю лодку. Мы далі слова ўраду, што даручэнне выканаем.

Нас было 10 чалавек. Двое старых вадалазаў, рэшта—маладняк, комсамольцы.

Як падняць лодку? Для гэтага трэба было падвесці пад дно лодкі сталёвыя канаты. Канцы канатаў знаходзяцца на двух караблёх—буксірах зверху. Калі канаты падведзены, тады лодку падняць не цяжка.

Падвесці канаты без вадалаза нельга. Вадалаз павінен быць на дне і накіраваць канат куды гэта трэба.

А працаваць на дне на такой глыбіні не так-та лёгка! Велізарная глыба вады цісне на цябе. Сядзіш, як у паравым катле. Адной адзежы на табе кіло 70. Але гэтага мала. У лёгкіх збіраецца шмат шкоднага паветра—азоту. А азот—галоўны вораг вадалаза. Болей 45 хвілін на такой глыбіні не выбудзеш. Падымацца наверх адразу няможна. Наверх мы ідзём 6 гадзін, праз кожныя два сажні—адпачынак. Іначай нельга: трэба, каб кроў пaступова ачышчалася ад азоту.

Вось як працуе вадалаз.

Я быў інструктарам начной змены. Мне сказалі: падвесці канат пад правыя рулі лодкі. Я сабраўся і пайшоў на дно. Праз некаторы час—стоп!—стукнуўся нагамі аб іл: гэта дно. Стаю на дне. Горача стала, у вачах аганькі

скачуць. Хадзіць хутка няможна, думаць многа таксама нельга, бо адразу—вобмарак. Хадзі, як мядзведзь. Думай аб адным—іначай ты не работнік, вылазь лепей.

Праз некаторы час я пазваніў па тэлефоне наверх.

— Работа скончана. Колькі часу астаецца быць тут?

Зверху таварыш мой, Міша Харашылкін, адказвае:

— Справіўся за сем хвілін. Маладзец.

— Толькі сем, — кажу я. — Часу яшчэ многа ў мяне. Я, Міша, падвяду канат яшчэ пад левыя рулі. Навошта шэсць гадзін другой змены чакаць, а заўтра будзем і лодку падымаць.

— Добра, — адказвае Міша. — Глядзі сам.

Я зрабіў усё, што трэба было.

— Давай наверх!—крычу я.

І пацягнула мяне вяроўка за рамень. Але... ні з месца. „Што здарылася?"—крычаць зверху.

— Пачакайце, — адказваю, — тут шланг*) штосці не пускае мяне...

Выявілася, што я засеў на дне, як прышыты. Шланг зачапіўся нейкім чынам за канат. Сам вызваліцца ніяк не магу. А тут—сорак пяць хвілін даўно мінула... Адчуваю я: вобмарак забірае. Выхаду няма. Ведаю, што і ратаваць няма каму: наверсе толькі адзін вадалаз вольны, але ён вучань—яго не пусцяць. А Міша ўжо быў на дне нядаўна. Яму нельга другі раз так скора спускацца. Апрача таго, ён зараз далекавата ад месца спуску—гадзіна хады. А праз гадзіну—ці вынжыву я?

Звесіў я галаву на рукі, мармычу ў тэлефон...

— Ладна... Другога не пасылайце. Нічога не трэба. Прапаў вадалаз. Шкада. Ранавата яшчэ...

Я паваліўся на дно і страціў прытомнасць.

Выратаваў мяне таварыш, Міша Харашылкін. Ён не паглядзеў ні на што—спусціўся.

Толькі на 18-ым сажні пад'ёму я прачнуўся ад вобмараку. З трудом, але праз некалькі гадзін дайшлі мы да верху.

Назаўтра я зноў быў здаровы і вышаў на работу. У гэты дзень у мора не спускаліся. А калі-б трэба было—я палез-бы.

Скора ў газетах надрукавалі: „Падводная лодка № 9 паднята і адпраўлена ў Кранштадт".



*) Шланг—прылада з паветрам.



# Вожык

Апавяданне і малюнак Е. Чарушына

Ёсць у мяне зямляк, салодкае любіць і мышэй баіцца. Трасе яго, калі ён мыш убачыць. Раніцай усё ў боты заглядвае, ці не залезла туды мыш.

Шкада мне стала, задумаў я дапамагчы яму. Дастаў я яму вожыка—каб ён мышэй у пакой не пускаў. Маленькі вожык, малады—ну, але з мышамі справіцца.

Прынёс я земляку свайму вожыка і астаўся начаваць у яго. Мы раніцай разам на паляванне збіраліся.

Ходзіць вожык па пакоі, да ўсяго прыглядаецца, дом ад мышэй вартуе.

Зарадаваўся мой прыяцель, заснуў моцна, ледзве-ледзве разбудзіў я яго раніцай. Адзяецца, песні спявае, мышэй не баіцца. Нават у боты не глядзіць.

Нацягвае балотныя боты—доўгія, вузкія. Адзяе бот, і раптам як закрычыць на ўвесь голас, кінуўся ды давай качацца па падлозе, як непрытомны.

На крык людзі збегліся, што жылі ў гэтым доме. Паглядзець на здарэнне сабраліся.

Стаім мы і, як дурні, глядзім, не ведаем, што рабіць. А ён па падлозе качаецца, кідаецца, нібы яго хто іголкай коле, і крычыць.

Шкада яго і страшна нам, а што рабіць—не ведаем. Стаім ды глядзім, а ён крычыць. Крычыць, ды не разабраць што.

Мы на яго ўсе накінуліся, каб не стукаўся аб падлогу, бот з нагі сарвалі, а з халявы вожык выкаціўся—і пад ложак.

Вожык то ў халяве начаваў.

Цяпер зямляк і вожыкаў не любіць. Баіцца!

# КАЗКА ПРА АЛЁШКУ-РАЗАНЬ І ДЗЯДЗЬКУ БЕЛАМОРА

Урывак з казкі Л. Касіля
Малюнкі В. Ціхановіча

*На далёкай поўначы ёсць горад Архангельск. Гэта вялікі прамысловы горад. Каб даехаць туды з Ленінграда, трэба зрабіць больш за 5 тысяч кілометраў морам.*

*І вось менш чым за два гады ўпартай работы бальшэвікі гэты шлях скарацілі ў тры з палавінаю разы. Для гэтага прышлося выкапаць канал даўжынёю ў 227 кілометраў праз горы і лясы поўначы.*

*Нідзе ў свеце няма такога вялікага канала з такімі магутнымі плацінамі. Канал названы* **Беламорска-Балтыцкі,** *бо ён злучае зараз між сабою два моры Белае і Балтыцкае.*

*На будаўніцтве працавалі былыя контр-рэволюцыянеры, кулакі, зладзеі і іншыя шкоднікі.*

*Многія з іх добрай і сумленнай работай загладзілі перад працоўнымі сваю віну,—сталі ў рады будаўнікоў-ударнікаў.*

*Адным з такіх і ёсць* **Алёшка-Разань.**

## Спрэчка

Было два моры і між імі была доўгая гара.

Жылі двое суседзяў і між імі была доўгая спрэчка.

Моры называліся: Белае і Балтыцкае. А суседзі былі: Мастачка, добрая душа, і Ваенны Комуніст, строгі чалавек. І спрачаліся яны пра фарбы. Мастачка любіла толькі ласкавыя колеры і фарбы.

А Ваенны Комуніст любіў і бачыў усе фарбы, якія толькі ёсьць у жыцці.

Дні і ночы займаўся ён у высокім зялёным доме. Гэты дом стаіць пасярод Масквы, на Любянскім узгорку. І адтуль відаць, як пажарнаму на каланчы, уся Савецкая краіна. І адтуль сочаць, ці не рыхтуюць нам дрэнныя людзі шкоду, ці не згаварваюцца ворагі напасці на нашы межы. Гэты дом завецца ДПУ. Людзі ў ім дзень і ноч на варце. Дзень і ноч напагатове, на-чаку, і называюцца яны чакістамі.

— Я—добрая душа, а вы строгі чалавек,—казала Комуністу Мастачка,—вы—чакіст. Вы—ДПУ.

Яны заўсёды спрачаліся.

Але найбольшая спрэчка ў іх вышла праз Алёшку па прозвішчу Разань.

## Не прапрудж вай!

Алёшка быў беспрытульнікам з Разані. Бацьку з маткай забілі белыя ў час грамадзянскай вайны. А з дзіцячага дома Алёшка ўцёк, бо пакрыўдзіўся за журавінны кісель. Алёшка вельмі любіў кісель з малаком. Ён еў яго марудна і забаўляўся. Ён выядаў кісель з двух бакоў сподка і ў ямкі наліваў малако. А ў сярэдзіне аставалася кісельная перагародка. Алёшка з'ядаў яе ў апошнюю чаргу. Ужо ўсе дзеці даўно павячэралі, рот выцерлі і спаць пайшлі, а ён адзін з кісялём забаўляецца. Загадчыца падганяла яго і брала лыжку, каб змяшаць кісель з малаком. Але Алёшка крычаў:



— А закурыць у цябе ёсць?

— Не прапруджвай! Не прапруджвай! Гэта мая плаціна

І біўся. Раз ён так позна засядзеўся з кісялём і так моцна крычаў „не прапруджвай“, што разбудзіў усіх дзяцей. Дзеці напалохаліся. Загадчыца забрала ў Алёшкі сподак. Тады Алёшка ёй на злосць уцёк з дзіцячага дома. Ён стаў бяспрытульнікам. Яго празвалі Алёшка-Разань.

Аднойчы ў выхадны дзень Комуніст-Чакіст і Мастачка гулялі па Маскве. Яны гулялі і спрачаліся. Яны спрачаліся аб пагодзе. Мастачка прызнавала толькі ціхую пагоду, а Чакіст любіў вецер і не баяўся прастудзіцца. І тут яны ўбачылі замурзанага бяспрытульніка. Гэта быў Алёшка Ён сядзеў у гразі. Кісялю ў яго цяпер ужо не было. І Алёшка забаўляўся ў бруднай лужыне. Ён проста рукамі капаў зямлю і рабіў плаціну-гаць.

— Ах, які страшны! — закрычала Мастачка,—ён зусім чорны, брудны! Я не магу глядзець...

— Трэба адправіць яго ў працоўную комуну,—сказаў,— Чакіст.—Там яго вымыюць. Эй, прыяцель! Як цябе зваць? Га? Алёшка? Разань? Ну — землякі, значыць. Я таксама Разанскі. Дык вось, прыяцель Алёшка, хадзем, брат, са мною.

— Пайшоў ты,—забурчаў Алёшка.—Усёроўна ўцяку!

— Ах, ён вас баіцца, як гэта вы не разумееце! — закрычала Мастачка. — Вы — строгі чалавек, а яму трэба добрая душа. Я не аддам яго вам. Я хачу сама яго ўзяць. У яго такія галубыя вочы. Толькі хай хто-небудзь вымые яго, каб ён стаў ружовы-ружовы.

І Мастачка хацела падыйсці да Алёшкі бліжэй. Яна зрабіла толькі шаг...—„Не прапруджвай“!—закрычаў Алёшка.— Не бачыш, куды нагу ставіш! Тут—плаціна.

— Слухай, хлапчук, — ласкавым голасам сказала Мастачка.—Хочаш жыць у мяне? У мяне добра. Я табе малюнкі намалюю.

— А закурыць у цябе ёсць?

— Што ты, Алёшка, хіба можна так... Як табе не брыдка курыць!

— Ідзі ты, ведаеш, далей ад мяне...

Вось які грубіян быў гэты Алёшка! Мастачка заплакала. Алёшку стала шкода яе. „Адразу ўжо і раве,—сказаў ён.— Чаго дарэмна вочы прапруджваеш... Ладна. Пайду. Дасі кісялю?“

Вось тут і пачалася вялікая спрэчка. Чакіст казаў, што гэта справа дзяржавы, што Алёшку трэба канешне адправіць у калонію для бяспрытульных. Там яго вымыюць і навучаць працаваць. Гэта будзе па-ленінскі. Ленін іменна так гаварыў: „У рэспубліцы не павінна быць абяздоленых і бяспрытульных дзяцей. Хай будуць юныя, маладыя і шчаслівыя грамадзяне“. Вось як гаварыў Ленін. А шчаслівым можна стаць толькі працуючы. Але Мастачка нізашто не аддавала Алёшку. Яна гаварыла, што сама выгадуе сірату.

І Алёшка астаўся жыць у Мастачкі. Ён еў кісель, але ўмывацца не хацеў. Ваду з мыцельніка ён разліваў па падлозе. З вады ён рабіў лужыны. Між лужынамі ён будаваў масты. А калі аднаго разу Мастачка вярнулася з кааператыва, яна не знайшла дома ні Алёшкі, ні галубой фарбы, ні ружовай. Алёшка абакраў яе. Алёшка ўцёк.



Чакіст прывёў Алёшку ў свой габінет.

Мастачка зараз-жа кінулася званіць па тэлефоне Чакісту.

## Злавілі злодзея

Мінула некалькі гадоў. Не было пра Алёшку ні слуху, ні духу. Аднойчы Чакіст позна ўвечары ехаў на аўтамабіле дадому. На рагу ён убачыў сярдзітых людзей. Злавілі злодзея. Злодзея хацелі біць. Вось нехта ўжо замахнуўся. Чакіст саскочыў з машыны і стрымаў паднятую руку. — Не смей біць!..

— Эх, строгі чалавек, а злодзея правучыць не дае!

— Мы вучым не так,—сказаў Чакіст.—Хадзем, грамадзянін, са мною. І ён павёў злодзея за сабою. А людзі шумелі, і злодзей дрыжаў.

— Пусціце мяне, — сказаў злодзей,—я малады хлопец. Я болей не буду.

Чакіст зірнуў на яго, яны пазналі адзін другога.

— Так,—сказаў Чакіст, — вось і сустрэў земляка. Эх, прыяцель Аляксей, вось ты якім стаў! Кепскія твае справы.

— Ну і няхай,—сказаў Алёшка.

— Чаму ты ўцёк тады? Прышоў-бы да мяне, я-б цябе паслаў вучыцца ў комуну. Паглядзі, дзе твае таварышы. Быў Сярога—злодзей, а цяпер інжынер Сяргей. Быў Паўлік—жулік, а цяпер Паўлюк—лётчык. Быў Мікола — жабрак, а цяпер Мікалай — артыст. Быў Васька—задзірака, а стаў доктар Васіль Іванавіч. А ты, Алёшка-Разань, цяпер—злодзей Аляксей.

Чакіст прывёў яго ў свой габінет. Вялікая карта вісела ў габінеце Чакіста. На карце было два моры і між морамі была гара—паўостраў.

— Вот,—сказаў Чакіст,—паедзеш ты, Аляксей, на Мядзвежую гару, моры прапруджваць. Гэта табе не кісель. Гэта работа сур'ёзная!



Мастачка—добрая душа.

— Ну і няхай,—прабурчэў Алёшка,—усёроўна ўцяку!

— Не ўцячэш, я з цябе зраблю чалавека.

— А я зараз хіба не чалавек?

— Яшчэ не, — сказаў Чакіст, і падвёў Алёшку да карты.

— Вось, глядзі: Скандынавія. Гэта не востраў а паўвостраў і ты пакуль не чалавек, а паўчалавек!

(*Канец будзе*).

# ЗАВАЕВА НЕБА

Чалавеку заўсёды хацелася лятаць як птушка. Але як-жа было ўзняцца ўвысь? Для гэтага патрэбна мець крыллі, як у птушкі. Некаторыя нават прабавалі зрабіць такія крыллі.

Але з гэтага нічога не вышла.

Прайшло некалькі сот гадоў, пакуль выдумалі самалёт, на якім можна лятаць куды хочаш. Але



Цяперашні самалёт.



Першы „самалёт“.

І на гэтым людзі не спыніліся. Справа ў тым, што і самалёт мае недахопы. На самалёце высока не падымешся: ад рэдкага паветра ўгары чалавек задыхаецца і самалёт не ідзе.

А што-ж там робіцца на далёкай вышыні? Ці можна якнебудзь туды ўзняцца, там лятаць? Вось над якімі загадкамі зараз працуюць людзі.

За апошнія гады было некалькі спроб падняцца на вялікую вышыню. Але гэтыя спробы не мелі поспеху. Толькі летась нямецкаму вучонаму Пікару ўдалося ўзняцца на вышыню 16 кілометраў і 200 метраў. Аб гэтым загаварылі ва ўсім свеце, як аб нечуваным поспеху.



Дырыжабль

Пікар падымаўся на паветраным шары—СТРАТАСТАЦЕ. Пад шарам зроблена памяшканне для людзей — гандола. Яна шчыльна закрыта і не прапускае паветра.

Але мінуў год. І сёлета НАШ СОВЕЦКІ СТРАТАСТАТ „СССР“ УЗНЯЎСЯ ЎВЫСЬ НА 19 КІЛОМЕТРАЎ! НА ТАКОЙ ВЫШЫНІ ЯШЧЭ НІКОЛІ НІХТО З ЛЮДЗЕЙ НЕ БЫЎ.

Наш стратастат быў пабудаваны лепш, чым замежны, і на лепшым нашым заводзе. Вось чаму мы маем такі ўдалы поспех. Нават ворагі Совецкага Саюза вымушаны вітаць гэты поспех.

Зараз вучоныя заняты вывучэннем вынікаў палёта. На стратастаце было многа розных навуковых прыладаў, праводзілася многа нагляданняў.

Пройдзе яшчэ некалькі год, і мы бясспрэчна будзем вольна і хутка лятаць на такіх вышынях, якія цяпер яшчэ нават невядомы чалавеку.



Стратастат „СССР“ у час палёта.

---

## ЗАГАДАЧНЫ МАЛЮНАК

У час лагераў быў у нас такі выпадак: прапаў акцябронак Спартак. Шукалі яго, шукалі — нідзе няма. „Можа ў рэчцы затануў?“ — думаюць акцябрата. Адзін з іх нават прыбег да рэчкі шукаць Спартака.



Але ж не. Спартак спакойна лазіць сабе па гэтых дрэвах. Вось і паспрабуйце знайсці яго!

## ЗАГАДКІ

1. Было жоўтым,
Вырасла зялёным.
Сонца пацалавала—
Зноў жоўтым стала.

(Зерне)

2. У зямлі сядзіць,
Хвост уверх глядзіць.
Цукар з яго можна зрабіць.
І смачны боршч зварыць.

(Бурак)

## ЖАРТ

Прышоў Якубка дахаты. Ён першы дзень быў у школе.

— Ну, як, спадабалася табе настаўніца?

— Нішто сабе. Але яна, мусіць, нічога не ведае, бо аб усім мяне пытала: і колькі год мне, і як завуся, і многа чаго іншага,— адказаў Якубка.

## Адказы на загадкі з № 13.

1. Каваль. 2. Камар. 3. Рак. 4. Думка. 5. Дзень і ноч. 6. Насёмы дзень.

Цана 50 кап.



# ЗДАГАДЛІВЫ ПІАНЕР

Малюнкі Н. Малевіча
Вершы А. Дзеркача



Ішоў фашыст вусаты
І бачыць: піанер
Расклейвае плакаты...
Ён кінуўся, як звер.



Дзяржы! Лаві злачынца!
Закаешся, браток:
Такога дам гасцінца...
А піанер—наўцёк!



Так! Так! не дайся гаду!
З драбін на дошкі—гоп!
Фашыст астаўся ззаду,
Хоць бег ён у галоп...



Э, бачна пад рукамі...
І план у хлопца:—Ну!
У бочку з абручамі
Фашыста апрану.



А той знямог да звання...
Дабег... Дагоніць... Ух!
Аж раптам з рыштавання
На галаў бочка—бух!



Не даў хлапчына маху:
Як кот у тым мяху,
Прысеў фашыст ад страх
Ў драўляным кажуху.



Далей... Ну, смех ды чыста
З дасціпным хлапчуком!
Ён падчапіў фашыста
Лябёдкавым круком.



А сам вясёлы скача
І верціць ручку, брат!
Папаў фашыст-няўдача
У яловы стратастат...



Ні ўзад і ні ўперад,
Вісіць фашыст, як гляк
Папаўся ў бочку—нерат
Двуногі той шчупак.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА".
Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ
Друкарня імя Сталіна
Заказ № 2500,
5075 экз.
Менгарліт № 2413.